


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

ТУ плюс

19 красавіка 2002 года
№ 16 (365)
Выходзіць па пятніцах

## Навіны рэгіёна

### Біскуп наведае Астравеччыну

**АСТРАВЕЦ**. На сёння запланаваны прыезд біскупа Гродзенскай дыяцэзіі **Аляксандра Кашкевіча**.

Падобныя візіты біскуп робіць кожныя пяць год. Мэта іх – як мага больш ведаць пра сітуацыю ў парафіях. Акрамя гэтага, біскуп Аляксандр Кашкевіч плануе сустрэцца з настаўнікамі і моладдзю, наведаць могілкі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Клуб будучых маладажонаў

**ВІЛЕЙКА**. На мінулым тыдні ў ЗАГСе прайшло першае пасяджэнне клуба будучых маладажонаў.

Спецыялісты ЗАГСа, сумесна з работнікамі тэрытарыяльнага вілейскага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей "Дыялог", правялі тэсціраванне дзвюх маладых пар, якія ў той дзень падалі заяўленне на рэгістрацыю шлюбу. Вынікі паказалі, што гэтыя віляйчане паспелі добра вывучыць адзін аднаго, да таго ж, яны сыходзяцца характарамі. Мэта стварэння клуба будучых маладажонаў – падрыхтаваць маладых людзей для будучага сямейнага жыцця.

Другое пасяджэнне клуба прайшло вечарам 18 красавіка.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Застрэлілася касірка

**АШМЯНЫ**. На мінулым тыдні застрэлілася 41-гадовая касірка, якая працавала на раённым вузле паштовай сувязі. Жанчына стрэліла сабе ў сэрца. Па службовых абавязках яна мела справу з вялікімі сумамі грошай, таму ёй для аховы выдавалі пісталет.

Матыў самагубства невядомы, вядзецца следства. У загінуўшай застаўся 12-гадовы сын.

**Таццяна АСТРАМОВІЧ.**

### Зазірнулі ў кафэ

**МАЛАДЗЕЧНА**. У ноч з 14 на 15 красавіка невядомыя абрабавалі кафэ "Адпачынак", што ў вёсцы Краснае.

Яны вынеслі мікрахвалевую печ, гарэлку, піва і віно. Гэтым прычынілі ўрон на 648457 рублёў.

На месцы здарэння знайшлі адбіткі пальцаў. Узбуджаная крымінальная справа.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### У навукі няма межаў

**ВАЛОЖЫН**. 10 красавіка ў райцэнтр прыехалі школьнікі з Германіі і Венгрыі.

Яны сумесна са старшакласнікамі СШ №2 ўдзельнічаюць у еўрапейскім экалагічным праекце "Навука ў свеце".

Агульная дэлегацыя замежных гасцей – 40 чалавек. У яе склад увайшлі навучэнцы гімназіі нямецкага горада Вайльбурга і іх вянгерскія калегі з горада Кішкунвельгіхаза. Тэма сумеснай работы – "Вада – аснова піцця". У Беларусі малады людзі вучацца методыкам аналізу пітной вады, будуць удзельнічаць у канферэнцыях. Венгерскія і нямецкія школьнікі наведваюць урокі, пабывалі на экскурсіі ў Мінску, Хатыні, Івянцы і Налібоцкай пушчы. 21 красавіка замежныя госці паедуць дадому.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Шаленых жывёл большае

МЯДЗЕЛ. З пачатку года ў раёне зарэгістравана 6 выпадкаў шаленства жывёл. Летась за ўвесь год было на 2 менш.

Захварэлі 5 лісаў і 1 янот. Выпадкі шаленства знаходзілі кожны раз у розных населеных пунктах. Калі лісы былі больш-менш спакойныя, то янот быў агрэсіўны. Ён напаў на хатняга сабаку.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 20 красавіка

**Мінск**

**4°С** (уначы)
**18°С** (удзень)

**Вільня**

**4°С** (уначы)
**19°С** (удзень)

Нядзеля, 21 красавіка

**Мінск**

**4°С** (уначы)
**19°С** (удзень)

**Вільня**

**5°С** (уначы)
**19°С** (удзень)

# Драўляныя цуды Юрася Камандзірчыка

**МЯДЗЕЛ. Такое ўражанне, што Купа становіцца цэнтрам драўлянага дойлідства. Зойдзеш на кірмаш у пасёлку – там шмат розных рэчаў, і кожная здраўніца лічыць за гонар паставіць масіўны знак пры ўездзе на сваю тэрыторыю, і нават шыльда на аддзяленні міліцыі – і тая драўляная.**



**Майстар Юрась Камандзірчык за работай над вобразам Галіны.** Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

#### Аўтара!

А завялі такую моду **Фёдар Акішаў** і **Юрась Камандзірчык**. Юрась расказвае, што разьба захапіла яшчэ ў войску – спадабалася, як сябра з куска драўніны шыкоўнага арла мог зрабіць. Потым працаваў на будоўлі, штосьці выразаў (так, для сябе) і хацеў навучацца майстэрству сур'ёзна. А з вучобай гісторыя цікавая выйшла: пачуў, што ёсць вучылішча, дзе разьбяроў рыхтуюць і прыехаў туды за тыдзень да пачатку заняткаў. Як ні дзіўна, узялі. Так і пачаў вучыцца майстэрству – у 25 год.

– Дрэва – своеасаблівы матэрыял, – расказвае. – Паўтораў тут быць не можа, адрэзаў – ужо не прыклеіш. Таму кожная работа – непаўторная, аўтарская.

**– А што самае цяжкае?**

– Знайсці ідэю і вобраз. Знайшоў – лічы, палова працы зробленая.

**– Бяссонныя ночы бываюць?**

– Калі над чымсьці працуеш, што ні рабіў бы, пастаянна пра гэта думаеш. З галавы не выходзіць

#### Праект

Амаль увесь мінулы год Юрась Камандзірчык працаваў над вялікім заказам – афармляў куток адпачынку на беразе Нарачы. Тут шмат чаго, а самае цікавае – тры скульптуры з дрэва. Зрабіць адну займае каля месяца. А да гэтага трэба прыдумаць вобраз, намаляваць эскіз.

Наогул, вобразы ўзнікаюць па-рознаму. Адзін падказала старая фатаграфія. На ёй рыбак з сомам кілаграмаў на 60, лавілі такіх яшчэ год трыццаць таму на Нарачы. Другая скульптура – таксама рыбак. Але ўжо няўдачлівы: толькі некалькі рыбінак злавіў, да таго ж і лодкі пазбавіўся – з вяслом сядзіць, сумуе. А трэцюю скульптуру майстар хацеў зрабіць па матывах нарачанскіх паданняў. Але вобраз ніяк не даваўся. Дапамог аўтар «РГ» **Міхась Чарняўскі**. Праходзіў неяк, даведаўся пра цяжкасці Юрася і прынёс зборнік вершаў Максіма Танка. Паэма «Ля вогнішч начлежных» аказалася тое, што трэба: яе галоўная гераіня Галіна стала тым вобразам.

– Апошні радок паэмы на скульптуры выразаў, – гаворыць майстар. – Сёлета Максіму Танку споўнілася б 90.

**– Як лічыце, гэтая работа – добрая памяць пра яго будзе?**

– Думаю, добрая. Тым больш, што і Максім Танк, і гэтыя скульптуры каранямі ўраслі ў нарачанскую зямлю – толькі скульптуры ў прамым сэнсе. Раней раслі тут старыя таполі. Пачалі сохнуць, і замест таго, каб іх проста спілаваць, галоўны ўрач санаторыя «Нарач» **Леанід Шапэчка** тры ствалы пакінуў. Запрасіў Юрася – працуй!

А з інструментаў для працы трэба электрапіла і набор стамесак.

**– І гэта ўсё?**

– Натхненне яшчэ трэба. Калі яго няма, то можна таптацца дзень, другі – і нічога не атрымаецца. А можна за хвіліны зрабіць тое, што паўтыдня шукаў.

#### Водгукі

Хацеў майстар зрабіць месца, дзе турысты маглі б сфатаграфавацца на памяць: менавіта з Нараччу і навеянымі ёй вобразамі. Што тыя ахвотна і робяць. Здымкі ўжо ёсць у Амерыцы, Германіі, Польшчы. Гавораць, што цікавыя вобразы. Летась часта можна было ўбачыць такую карціну: Юрась працуе, а вакол цікаўныя. А каб моцна пытаннямі не даймалі (што такое, да чаго), ён ім раздрукоўку паэмы Танка прынёсіў. Сядалі, чыталі – так да паэзіі далучаў.

Хто-ніхто з гасцей краю і пажартаваць быў не супраць. Убачылі, што дзяўчыну выразае, гавораць: «Вы ўжо з «формамі» яе зрабіце. А то часам з жанчынай ніякай не пазнаёмішся, прыйдзем сюды, хоць драўляную абдымем». А для тых, у каго гэткай праблемы не ўзнікае, майстар спецыяльную лаву выразаў. Яна так зробленая, што, калі двое прысядуць, то хочаш-не хочаш, а плячом да пляча прытуляцца. Назваў «Лавай закаханых».

Раз нейкі адпачываючы пачаў шкадаваць Юрася: «Вось колькі ў вас тут работы! Калі яшчэ дамоў у Мінск вернецеся». Здзівіўся, як даведаўся, што Юрась тут жыве і сваімі работамі паказвае, што і ў правінцыі майстры не звяліся.

Паглядзеў на яго намаганні адзін адпачываючы і сабе заказ зрабіў: праўда не скульптуру, а альтанку ў двор. Вось падумаў: ставяць жа ў Нарвегіі ля катэджаў троляў, а дзе гномаў так шануюць. Можа, у нас хоць калі-небудзь стане звычайнай справай упрыгожваць двары скульптурамі з народнымі персанажамі. Прыгожа было б, ці не так?

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Самы лепшы інтэрнат

**СМАРГОНЬ. Школа-інтэрнат заняла першае месца на Гродзеншчыне ў конкурсе "Вясёлкавы карагод".**

А па выніках абласных аглядаў заняла другое месца ў рэспубліцы. Старшыня журы – кампазітар **Васіль Раінчык** – асобна адзначыў вядучых праграмы **Наташу Кашэру** і **Сашу Пашкоўскага**. Казаў, быць ім вядучымі дзяржаўнага тэлебачання і распісаўся на іх дыпломах пераможцаў.

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

## Конкурс груп падоўжанага дня

**ВІЛЕЙКА. Група падоўжанага дня пачатковай школы №6 райцэнтра, дзе выхавальнікам працуе Вольга Рысявец, заняла першае месца ў раённым конкурсе, які праходзіў на мінулым тыдні.**

Камісія з раённага аддзела адукацыі разглядала ўмовы для заняткаў і выхавання дзяцей у школах раёна, гульнявыя пляцоўкі і выстаўляла балы за кожны накірунак работы. Пераможца вызначыўся па лепшай суме.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Памер Сцяпан Дзямешка

**МАЛАДЗЕЧНА. Памер першы дырэктар СШ №6 Сцяпан Дзямешка.**

7 красавіка ён адзначыў сваё 80-годдзе. С. Дзямешка быў ганаровым грамадзянінам Маладзечна, заслужаным настаўнікам БССР, кавалерам ордэнаў Леніна, Славы III ступені, Айчыннай вайны II ступені.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## «Дыялог» шукае падтрымкі

**ВІЛЕЙКА. З 11 чэрвеня па 30 ліпеня 19 школьнікаў з райцэнтра паедуць на адпачынак і лячэнне ў Іспанію.**

Аказанне падтрымкі сем'ям і дзецям – гэта адзін з напрамкаў работы тэрытарыяльнага вілейскага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей "Дыялог".

Цэнтр – гэта дзяржаўная арганізацыя і фінансуецца за кошт мясцовага бюджэту. Але, як сказала дырэктар цэнтра **Людміла Сляпцова**, сёлета гэтых грошай хапае толькі на зарплату. Сродкі на дапамогу шукаюць ў грамадскіх арганізацыях, на прадпрыемствах, у прадпрымальнікаў і прыватных асоб.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Банк дадзеных «Дыялога»

**На ўліку ў Цэнтры сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей «Дыялог» па стане на 1 красавіка стаяць:**
**311 сем'яў з «групы рызыкі»;**
**1307 няпоўных сем'яў;**
**603 мнагадзетныя сям'і;**
**147 дзяцей-інвалідаў;**
**91 бацька-інвалід;**
**69 апякунскіх сем'яў.**
**Усяго – 2528 сем'яў.**

# Майстар саламяных спраў

**МАЛАДЗЕЧНА. Настаўнік малявання СШ №5 доўгі час назіраў за сваёй вучаніцай-шасцікласніцай. Кожны раз уважліва разглядаў яе работы.**

— Люда, табе ў мастацкай школе вучыцца трэба.

Дзяўчынка сама напісала заяву туды, каб яе залічылі. Вельмі хацелася навучыцца рабіць прыгожае. Бацькі пра гэта даведаліся пазней: "Мама, тата, я буду займацца ў мастацкай школе".

Хутка Люда скончыла мастацкую школу. Потым некалькі дзён вучылася на рэстаўратара ў мінскім вучылішчы. Але родныя сцены перамаглі. Кінула вучобу і вярнулася ў Маладзечна. Тут і працавала творчую дзейнасць. У 1993 годзе стала членам Саюза майстроў Беларусі. Гэта дало магчымасць удзельнічаць у прафесійных выстаўках. Ёй было ўсяго 18! У 1997 годзе ўвайшла ў лік першых дзесяці выпускнікоў аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва на базе музычнага вучылішча. Паралельна навучалася ў Мінскім інстытуце культуры на факультэце "Народныя рамёствы".

На дыпломную работу ў інстытуце прадставіла аб'ёмную саламяную скульптуру – дрэва жыцця. Яго вышыня – 120 сантыметраў. Рабіла дрэва на працягу трох месяцаў. А на дыплом у вучылішчы шкатулку спляла. Дзесьці 2 месяцы патраціла.

Людміла Ваўковіч-Борыс гаворыць, што прафесію сабе набыла па душы.



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Людміла Ваўковіч-Борыс нарадзілася 10 студзеня 1975 года ў Маладзечне. Скончыла Мінскі інстытут культуры ў 1999 годзе. Займаецца саломапляценнем, аплікацыяй, выцінанкай, вырабам лялек. Працуе ў маладзечанскай дзіцячай мастацкай школе. Выхоўвае дачушку Настачку. Жыве ў вёсцы Слабодка Хажоўскага сельсавета.**

Вобразы для сваіх работ бярэ з кніг, вывучае беларускія святы, іншы раз і дзеці падказваюць. Выконвае тэматычныя работы (гуканне вясны, Вялікдзень, калядная, купальская, беларуская Мадонна, букеты, пано). Ёсць што і прадаць. З гэтай мэтай возіць свае работы, часцей за ўсё, у Мінск у спецыяльны салон. Каля 5 год удзельнічае ў рэспубліканскай выстаўцы народных майстроў "Калядныя ўзоры".

У Людмілы ёсць свая майстэрня. Стараецца там захаваць усе свае работы. Раней шых сваіх твораў сароmeецца:

— Здаецца, што не я гэта рабіла.

Цяпер Людміла Ваўковіч-Борыс мае 7 выставачных работ.

— Мару зрабіць персанальную выстаўку. Для гэтага павінна быць 15-20 экспанатаў. Пытанне часу. Спраўлюся.

У сям'і Людмілы такой справай ніхто не займаўся. Таму і дзявочае прозвішча нядаўна назад вярнула.

**Ірына РАБУШКА.**

## Абласны конкурс юных пажарных

**12 красавіка ў Гродне прайшоў абласны конкурс па пажарна-прыкладным спорце сярод юнакоў. Усяго было 19 каманд.**

Сярод іх былі прадстаўнікі ўсіх раёнаў Гродзенскай часткі рэгіёна. У склад каманд уваходзіла па 3 чалавекі. Лепшай з нашага рэгіёна стала каманда са Смаргонскага раёна. Яна заняла 7-е месца.

Старшы інжынер-інспектар Смаргонскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Стэсін**:

— Сваёй камандай задаволены. Не думаў, што ў "дзесятку" увойдзем. Судзейства было справядлівае.

Каманда з Ашмян заняла 9-ы радок. Інспектар дзяржпажнагляду раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Віктар Сымановіч**:

— Каманда ўдзельнічала першы раз. Балельшчыкі сустракалі хлопцаў "на ўра". Былі здзіўленыя іх здольнасцямі. Нават жартам выкрыкалі: "Ашмяны – на допінг!".

Хлопцы з Астраўца – на 10-й прыступцы.

Старшы інспектар, капітан унутранай службы **Валянцін Сцефановіч**:

— Наша каманда была адзіная з уласнай спартыўнай формай. Найбольш цяжка нам далася 100-метровая паласа. Каб яе лепш выканалі, дзесьці 6-7 радок у агульным заліку заняў бы.

Перамагла ў конкурсе каманда Гродзенскага раёна.

**Ірына РАБУШКА.**




## Размаўляй па-беларуску

Каб прыцягнуць увагу грамадскасці да роднага слова, Таварыства беларускай мовы пры фінансавай падтрымцы нацыянальна свядомых прадпрымальнікаў выпусціла адмысловы значок «Размаўляй са мной па-беларуску». У каго ёсць жаданне мець такі значок, завітайце, калі ласка, у сядзібу ТБМ па вул. Румянцава, 13, што ў Мінску.

**Сакратарыят ТБМ.**

■ **ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА**

## Паклон Таццяне Канабраткінай

**У №13 нашага выдання было апублікавана інтэрв'ю Яўгеніі Манцэвіч з маладзечанкай Таццянай Канабраткінай, якая гандлюе на прадуктовым рынку садавінай. Усе цэннікі ў палатцы Таццяны напісаныя па-беларуску. У мінулы аўторак рэдакцыя атрымала ліст з Мінска:**

«Шаноўны спадар рэдактар, Таварыства беларускай мовы вітае з'яўленне ў Вашай газеце за 29.03.2002 г. артыкула «Дзе купіць «беларускамоўных» яблыкаў?». На нашу думку, менавіта такія публікацыі дапамогуць змяніць стэрэатып аб тым, што беларуская мова не накорміць народ. Яшчэ як накорміць! Асабліва тады, калі праз гэты асноўны дзяржаўны чыннік беларус адчуе сябе гаспадаром на сваёй зямлі, як пачувае сябе Таццяна Канабраткіна з Маладзечна. Нізкі паклон ёй, жанчыне, якая выхоўвае пачуццё нацыянальнай годнасці ў грамадзян Беларусі, здавалася б, не прыкладаючы дзеля гэтага асаблівых намаганняў. Поспехаў Вам у справе абуджэння нацыянальнай годнасці нашага народа на старонках «Рэгіянальнай газеты».

**Старшыня грамадскага аб'яднання «ТБМ імя Ф. Скарыны» Алег ТРУСАЎ.»**

■ **ПАМЯЦЬ**




Фота Ірыны РАБУШКІ.

**11 красавіка. Мітынг ля мемарыяльнага комплексу «Шталаг-342».**

## Кветкі ля «Шталага-342»

**МАЛАДЗЕЧНА. Званы парушылі цішыню. Музыка смутку ўскалыхнула паветра. Так пачаўся мітынг, прысвечаны вязням, якія загінулі ў гады другой сусветнай вайны.**

За тры гады існавання канцэнтрацыйнага лагера ў Маладзечне загінула 33150 чалавек.

Кіраўнік гарадскога савета вязняў **Уладзімір Бераснеў**:

— Жывыя павінны памятаць пра тых, хто загінуў дзеля нашага спакою.

З гэтым згадзіўся кіраўнік спраў выканкома **Валяр'ян Кавалевіч**. **Анастасія Цвердахлебава**, былы вязень, памятае, як сям'ю прыгналі сюды са Смаленшчыны. Да гэтага часу стаіць перад ёй пах хлеба, і чуе яна дзіцячыя галасы: "Мама, піць".

**Ларыса Зінкевіч** прачытала свой верш, прысвечаны былым вязням.

Сведкамі таго, што адбывалася каля "Шталага" у гэтыя хвіліны, былі дзеці, маладое пакаленне. Прысутнічалі вучні з СШ №1, 5. Член Беларускай асацыяцыі гайдаў, вучаніца 11 класа беларускай гімназіі **Вольга Пчолкіна** ведае пра вайну з успамінаў свайго дзеда. І лічыць сваё пакаленне шчаслівым.

У знак падзякі загінуўшым усклалі кветкі. Яны былі пакладзеныя на камяні. Менавіта пад імі знаходзяцца астанкі. Лічбы 196, 98, 215 і г. д., высечаныя на камянях, азначаюць колькасць магіл.

Хвіліна маўчання...

**Ірына РАБУШКА.**

■ **ТЭАТР «БАТЛЕЙКА» ЗАПРАШАЕ**

## «Незвычайныя спаборніцтвы»

На двары вясна. А ў тэатры лялек "Батлейка" – ужо лета з яго вясёлымі спевамі, пяшчотным сонейкам і "Незвычайнымі спаборніцтвамі", на якія, дарэчы, вас запрашаюць Вожык з Вожычыхай і Заяц.

Гэтыя лясныя жыхары заўсёды спрачаюцца: хто мацнейшы, хто разумнейшы, хто спрытнейшы. У рэшце рэшт, не гэта галоўнае. "А што?" – спытаецеся вы. Адказваю: вынаходлівасць і пірог з капустай.

**Таццяна ЧАЕЎСКАЯ.**

■ **ТЭАТР**

## Мінскія гастролі драмтэатра

**24 красавіка Мінскі абласны драматычны тэатр (МАДТ) выязджае з гастролямі ў Мінск.**

На сцэне Палаца культуры тэкстыльшчыкаў будуць паказаныя казка-канцэрт для дзяцей "Чарадзейства ў краіне Оз" **Галіны Булыкі** і лірычная камедыя "Характары" па творах Васіля Шукшына.

П'еса Г. Булыкі "Чарадзейства ў краіне Оз" створаная па матывах твораў амерыканскага драматурга Фрэнка Баума. У спектаклі дзяцей чакае сустрэча з Чараўніком, Латачкай, Цік-Токам, Калматым, Вясёлінкай, каралём далакопаў Ругедам і іншымі казачнымі персанажамі. Латачка разам з Цік-Токам і Калматым пераадольваюць шматлікія перашкоды і адшукваюць крыльца Ізумруднага матылька, але героі забываюцца, што нельга рабіць дабро, прыносячы зло іншым.

Дарослых гледачоў акцёры МАДТ запросяць на спектакль, які ўяўляе сабой некалькі фрагментаў з жыцця сялян. Асноўныя тэмы, якія аб'ядноўваюць, на першы погляд, розныя творы, розныя характары, – тэма кахання, пошуку асабістага шчасця, свайго месца ў жыцці.

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**



Фота з архіва Мінскага абласнога драматычнага тэатра.

**Казка-канцэрт для дзяцей "Чарадзейства ў краіне Оз". Латачка – Алена Рахмангулава, Цік-Ток – Аляксандр Пашкевіч, Калматы – Яўген Іўковіч.**

## Занальная гульня КВЗ

**МАЛАДЗЕЧНА. 17 красавіка ў актавай зале ПТВ-21 прайшла занальная гульня КВЗ. Арганізатар – абласное ўпраўленне адукацыі.**

Удзельнічала 5 каманд. Тры маладзечанскія – з ПТВ-21, ПТВ-87 і ПТВ-135, каманда Валожынскага ПТВ-208 і ПТВ-42 з Беразінскага. Гледачы ўбачылі 4 конкурсы: "Візітная картка", "Размінка", "Конкурс капітанаў", "Дамашняе заданне". З адрывам у 0,8 балаў ад ПТВ-87 перамагла каманда ПТВ-21. За гэта ёй арганізавалі салодкі стол. Трэцяе месца – у валожынскай каманды.

Пасля заканчэння занальных гульняў магчымы варыянт, што іх пераможцы сустрэнуцца ў фінале.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ПРАФЕСІЯ – ПСІХОЛАГ

# Што можна даверыць тэлефону даверу?

**МАЛАДЗЕЧНА. Прафесія псіхолага тэлефона даверу патрабуе не толькі ведання псіхалогіі як навукі, але і эрудыцыі ў іншых галінах ведаў, сферах жыццядзейнасці. У гэтым я пераканалася ў час сумеснага дзяжурства на тэлефоне даверу разам з псіхолагам Інай Мартынавай.**

### Слухаць і задаваць пытанні

Гэта галоўнае, што ёй даводзіцца рабіць на працягу тэлефонных размоў са сваімі абанентамі.

– Трэба валодаць бясконцай цярплівасцю, – прызнаецца І. Мартынава, – бо абаненты тэлефануюць самыя розныя. Іншым разам нават ствараецца ўражанне, што чалавек і не імкнецца знайсці са мной кантакт. Але калі ён выгаворыцца і пачне сам задаваць пытанні накшталт "што рабіць?", "што вы пра гэта думаеце?", вось тут і пачынаецца работа над вырашэннем яго праблемы.

Яшчэ больш складана працаваць з кліентамі, у якіх спажывецкае стаўленне да тэлефона даверу. Маўляў, выдайце мне рашэнне маёй праблемы і ўсё тут! Але ці магчыма нешта вырашыць, выдаць рэцэпт на ўсе выпадкі, пражыць за некага жыццё?

– Я не маю права, – гаворыць мая суразмоўца, – прымаць рашэнне за кагосьці. Мая справа – дапамагчы чалавеку зразумець, што ён хоча і можа зрабіць.

### Каханне без узаемнасці і смерць існуюць побач

Прагучаў першы званок. Юнак паскардзіўся на непаразуменні са сваёй дзяўчынай, з якой сустракаецца ўжо паўгода. "Мне здаецца, што яна мне хлусіць, – прызнаўся ён. – Гаворыць адно, а я адчуваю, што на самой справе ўсё зусім інакш".

А вось і другое тэлефанаванне. На гэты раз дапамогі просіць 12-гадовая дзяўчынка. Ёй вельмі падабаецца яе аднакласнік, але як звярнуць на сябе яго ўвагу, яна не ведае.

У такіх выпадках на дапамогу часта прыходзяць валянцёры – юнакі і дзяўчаты.

Найбольшую небяспеку ўяўляе сабой нераздзеленае каханне, якое іншым разам прыводзіць да намераў здзейсніць самагубства.

– У нашым грамадстве распаўсюджаны міф, што чалавек, які гаворыць пра самагубства, наўрад ці развітаецца з жыццём. Няпраўда! Гэта проста значыць, што нейкая частка яго асобы хоча жыць і спадзяецца, што чалавеку не дазволяць ажыццявіць жудасны намер.

### Званіце на тэлефон даверу

Што турбуе бацькоў, якія звяртаюцца на тэлефон даверу? Паводзіны іх дзяцей – у школе, дома. І самае складанае ў гэтым – знайсці кампраміс. А менавіта павагі да сябе "неслухі" розных узростаў часцей за ўсё і патрабуюць. Таму і пачынаюць піць-курыць, вяртацца не ва ўстаноўлены бацькамі час дадому. Набалелым пытаннем як для бацькоў, так і для дзяцей з'яўляюцца праблемы ўваходжання школьніка ў новы клас. У апошнія некалькі год актуальнай стала праблема дзейнасці шматлікіх сектаў і іх уздзеяння на псіхіку як дзяцей, так і бацькоў.

– Але і ў псіхолага, пэўна, ёсць свае праблемы? – звяртаюся з пытаннем да суразмоўцы. – Як спраўляецеся з уласнымі цяжкасцямі?

– Звычайна дапамагае кансультаванне з калегамі, – адказвае Іна Мартынава.

**Эльміра АБАСАВА.**

### Як з'явіўся тэлефон даверу?

**У 1953 годзе лонданскія свяшчэннаслужыцелі Пітэр У. Уэст і Чад Вара абвясцілі свае тэлефонныя нумары як месцы, куды адзінокія, разгубленыя ці схільныя да суіцыду людзі маглі звярнуцца па падтрымку. З гэтых намаганняў і нарадзіўся сучасны рух людзей, прызваных дапамагаць іншым па тэлефоне.**



Фота IREX/ProMedia.

**Па дадзеных экспертаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, 75-80% курыльшчыкаў жадаюць кінуць курыць, і каля 1/3 часткі зрабілі не менш за 3 сур'ёзныя спробы адмовіцца ад спажывання тытуню.**

# «Кінь курыць і выйграй-2002»

Міжнародная кампанія "Quit and Win" (Кінь курыць і выйграй) глабальная антытытунёвая акцыя, якая аб'ядноўвае і падтрымлівае курыльшчыкаў ва ўсім свеце ў іх спробе кінуць курыць, праводзіць розыгрыш латарэі "Quit and Win-2002" ("Кінь курыць і выйграй-2002") у Беларусі.

**Правілы правядзення:**

– Тыя, хто жадае ўзяць удзел, запаўняюць рэгістрацыйную картку і накіроўваюць яе ў бліжэйшы гарадскі ці раённы цэнтр здароўя да 2 мая ўключна

– Удзельнічаць у кампаніі могуць усе жадаючыя, каму больш за 18 год, якія штодзённа курацъ на момант пачатку акцыі не менш за 1 год

– Удзельніку кампаніі неабходна цалкам адмовіцца ад курэння з 2 па 29 мая 2002 года

– Факт адмаўлення ад курэння пацвярджаецца сведкай удзельніка, звесткі пра якога заносяцца ў рэгістрацыйную картку

– Удзельнікам кампаніі дазваляецца выкарыстоўваць прэпараты нікаціназамяшчальнай тэрапіі, якія можна набыць у аптэчнай сетцы

– Для пацвярджэння поўнага адмаўлення ад курэння сярод удзельнікаў праводзіцца выбарачнае апытанне і біяхімічнае тэсціраванне

**Умовы латарэі "Quit and Win-2002":**

– Узрост – 18 год і старэйшыя

– Штодзённае курэнне на момант пачатку акцыі не менш за 1 год

– Правільнае і дакладнае запаўненне ўсіх граф рэгістрацыйнай карткі

– Своечасовае адпраўленне рэгістрацыйнай карткі ў цэнтр здароўя да 2 мая 2002 года ўключна

– Поўнае адмаўленне ад курэння з 2 па 29 мая 2002 года, што пацвярджае сведка ўдзельніка

**Прызы:**

Па выніках розыгрышаў на абласных і рэспубліканскіх узроўнях сярод удзельнікаў кампаніі вызначаюцца пераможцы, для якіх прадугледжаны шэраг рэгіянальных і нацыянальных прызоў.

Нацыянальныя пераможцы ўдзельнічаюць у розыгрышы міжнароднага суперпрыза ў 10000 долараў або 6 еўрапейскіх прызоў па 2500 долараў.

## QUIT and WIN-2002
## Кінь курыць і выйграй – 2000

РЭГІСТРАЦЫЙНАЯ КАРТКА ЎДЗЕЛЬНІКА

**Прозвішча, Імя, імя па бацьку** ________________________

________________________

**Дата нараджэння** [ ][ ] чысло [ ][ ] месяц [ ][ ] год

**Пол** [ ] мужчынскі [ ] жаночы

**Прафесія** ________________________

**Адрас** ________________________

________________________

**Тэлефон** ____________ раб. ____________ дам.

**Колькасць, якую выкурваеце за дзень** (цыгарэт+папярос+цыгар) [ ][ ]

**Раней спрабаваў кінуць курыць**

[ ] ні разу [ ] 1–2 разы [ ] 3 і больш

**Куру на працягу** [ ][ ] год

Я пацвярджаю, што буду ўдзельнічаць у конкурсе ў адпаведнасці з Міжнароднымі Правіламі.

Подпіс ____________ Дата ____________

Сведка майго ўдзелу ў кампаніі:

**Прозвішча, Імя, імя па бацьку** ________________________

________________________

**Адрас** ________________________

________________________

**Тэлефон** ____________ раб. ____________ дам.

Пацвярджаю факт папярэдняга курэння ўдзельніка кампаніі і адмаўлення ад яго на працягу 4 тыдняў з 2 мая па 29 мая 2002 года.

Подпіс ____________ Дата ____________

**Алена ГЛАЎНІЦКАЯ.**

## Знаходка на 300 тысяч долараў

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні супрацоўнікі маладзечанскай мытні затрымалі на чыгуначнай станцыі Маладзечна тры кантэйнеры з цыгарэтамі.**

Згодна з мытнай дэкларацыяй, у кантэйнерах, якія накіроўваліся ў Калінінград, знаходзілася мінеральная вада. Цыгарэты канфіскаваныя ў даход дзяржавы. Кошт знаходкі – каля 300 тысяч долараў.

**Ірына РАБУШКА.**

## «Карусэлі» – 10 год

**ВІЛЕЙКА. 21 красавіка харэаграфічнаму калектыву "Карусель" з гімназіі спаўняецца 10 год.**

З гэтай нагоды ў раённым Доме культуры адбудзецца канцэрт. Пачатак – аб 11-й гадзіне.

**Ірына РАБУШКА.**

## Узарвалася машына

**МЯДЗЕЛ. У мінулую пятніцу каля гадзіны дня блізу вёскі Лотва адбылася трагедыя.**

Аўтамашына BMW з'ехала з дарогі на абочыну, урэзалася ў дрэва, загарэлася і ўзарвалася. Кіроўца і два пасажыры здолелі вылезці з машыны, а ў жанчыны, што сядзела ўперадзе, не атрымалася. Яна згарэла.

**Алесь ВЫСОЦКІ**

## Пакурыў у ложку

**МАЛАДЗЕЧНА. 14 красавіка па вуліцы Тургенева згарэла кватэра.**

Загінуў гаспадар 1936 года нараджэння. Як высветлілася, пажар узнік у выніку курэння ў ложку.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Згарэў дом

**СМАРГОНЬ. 13 красавіка згарэў нежылы дом.**

Прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём. Экспертыза пацвердзіла, што агонь перакінуўся на дом ад сухой травы, якую нехта запаліў.

**Ірына РАБУШКА.**

# Анджэй Пісальнік на волі

15 красавіка выйшаў на волю журналіст газеты "День" Анджэй Пісальнік. Ён адседзеў 10 сутак за ўдзел 5 красавіка ў несанкцыянаваным пікеце пратэсту супраць крымінальнага пераследу журналістаў гродзенскай газеты "Пагоня" **Міколы Маркевіча** і **Паўла Мажэйкі**.

**Па матэрыялах www.pahonia.promedia.minsk.by**



Фота www.pahonia.promedia.minsk.by

**Пасля выхаду з ізалятара, Анджэй Пісальнік з маці.**

# Прэзідэнт Гавел занепакоены становішчам на Беларусі

**Прэзідэнт Чэшскай Рэспублікі Вацлаў Гавел глыбока занепакоены сталым парушэннем правоў чалавека на Беларусі. Пра гэты паведаміў сродкам масавай інфармацыі прэс-сакратар прэзідэнта Чэшскай Рэспублікі Ладзіслаў Шпачак.**

Апошнія выпадкі парушэння асноўных правоў, гаворыцца ў прэс-рэлізе, як то права на свабоду сходаў і права на свабоду выказвання, пераслед прадстаўнікоў апазіцыі, палітычна матываваны ўціск а цяпер і дзяржаўная ліквідацыя тыднёвіка "Пагоня" ды абвінавачванне яго журналістаў **Міколы Маркевіча** і **Паўла Мажэйкі** ў паклёпе на прэзідэнта, паводле Вацлава Гавела, знаходзяцца ў агромністай супярэчнасці з дэклараванымі намаганнямі беларускіх прадстаўнікоў далучыць краіну да еўрапейскіх і міжнародных структур.

Прэзідэнт Гавел заклікае да неадкладнага заканчэння крымінальнага пераследу абодвух журналістаў і іншых пакараных асоб і спынення далейшых парушэнняў правоў чалавека на Беларусі. Гэтым ён выказвае, як і шмат разоў да гэтага, сваю салідарнасць з тымі, хто імкнецца да дэмакратызацыі аўтарытарнага рэжыму **Аляксандра Лукашэнкі**.

Прэзідэнт упэўнены, што трансфармацыя беларускага грамадства, росквіт эканомікі ды далучэнне да сям'і еўрапейскіх краін магчымыя толькі разам з павагаю да правоў чалавека і дэмакратычных каштоўнасцяў, якімі з'яўляюцца, напрыклад, свабода сродкаў масавай інфармацыі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# Падлеткі і гвалт

**ВІЛЕЙКА. У красавіку супрацоўнікі тэрытарыяльнага Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей правялі анкетаванне 13-16-гадовых падлеткаў.**

У анкеце было 10 пытанняў наконт праблемы гвалту. Удзельнічалі ў апытанні вучні школ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Усяго – 366 чалавек. 77% зведалі насілле на сабе.

У выніку можна зрабіць вывад, што падлеткі часта сутыкаюцца з насіллем. Як у дачыненні да сябе, так і да іншых. З адказаў відаць, што большая частка падлеткаў гатовая на праяўленне агрэсіі ў адказ на гвалт. 47 чалавек адказалі, што, калі бачаць гвалт, то адчуваюць віну і сорам. Гэтыя маладыя людзі, хутчэй за ўсё, нікому не скажуць пра тое, што ўбачылі. І гэта можа стаць для іх псіхалагічнай праблемай. 219 чалавек гавораць аб існаванні праблемы насілля. Пра адваротнае мяркуюць 16 падлеткаў.

Толькі трое гатовыя расказаць аб сітуацыях, якія звязаны з гвалтам, спецыялістам, яшчэ двое – настаўнікам. Большасць давярае толькі сябрам – так адказалі 199 чалавек.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### З чыйго боку зазналі гвалт вілейскія падлеткі



